*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край

**2018, № 8(30). Жнівень**

## Абразы з надпісамі ў храмах Слонімшчыны

*Па матэрыялах экспедыцыі 1982 года*



**ebay.de**

У 1981-1982 гадах супрацоўнікі Рэспубліканскага музея атэізма і гісторыі рэлігіі ў Гродне (цяпер — Музей гісторыі рэлігіі) правялі шэраг экспедыцый па даследаванні сакральнага мастацтва Гродзеншчыны. Былі даследаваны 128 храмаў Гродзенскай вобласці, сярод якіх 13 на тэрыторыі Слонімскага раёна. Па выніках быў складзены “Спіс помнікаў гісторыі і культуры, якія знаходзяцца ў культавых будынках Рымска-каталіцкай і Рускай праваслаўнай Цэркваў на тэрыторыі Гродзенскай вобласці, рэкамендаваных да пастаноўкі на ўлік”. Большасці гэтых прадметаў да сённяшняга часу не нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Цікавасць уяўляе той факт, што на шэрагу з выяўленых матэрыялаў маюцца дадзеныя пра іх ахвярадаўцаў і час, калі прадметы трапілі ў храмы.

●***Васіль Герасімчык***

*Працяг на ст. 8.*

## Дзедаўшчына ў Слоніме, радыёдыверсія і лагер ваеннапалонных каля Жыровічаў



**Фота: waralbum.ru**



***Савецкі прапагандысцкі плакат.***

Толькі нямногія ветэраны вайны вырашылі напісаць успаміны, яшчэ менш людзей стараліся нічога не замоўчваць. У савецкія часы цэнзура ўсё гэта “вычышчала”. Сёння кнігі ўспамінаў могуць выходзіць без купюр. Шкада толькі, што ветэранаў засталося вельмі мала…

У кнізе, якая трапіла ў нашы рукі, неспадзявана шмат “праўды жыцця”, “непараднай гісторыі”. Былы чырвонаармеец піша, што адчуваў сябе на Слонімшчыне ў 1940-1941 гадах, як на акупаванай тэрыторыі. Ён не замоўчвае антысавецкіх настрояў людзей і антысавецкіх акцый, негатыву, які прынесла савецкая ўлада. Аўтар быў ідэйным маладым чалавекам, які да таго ж займаўся ідэалагічным выхаваннем іншых вайскоўцаў. І якраз у той час пачалі ў яго з’яўляцца сумненні. Але чырвонаармеец адганяў іх — працай, гарэлкай, сэксам. Так, ва ўспамінах ёсць нямала эпізодаў пра сэксуальную разбэшчанасць, і не толькі савецкіх людзей, але і мясцовых жыхароў.

*Працяг на ст. 4.*

# Альбом “Кароткая фотахроніка пажарнай службы Гродзеншчыны”

У гродзенскім выдавецтве “ЮрСаПрынт” выйшаў цікавы альбом, які складаецца з больш чым 150 унікальных фотаздымкаў, прысвечаных гісторыі пажарнай службы Гродзеншчыны. Яго ўкладальніцай з’яўляецца Ірына Качан, дырэктар Музея гісторыі пажарнай службы г. Гродна. Сярод выяваў, змешчаных у выданні, маюцца і фота, прысвечаныя пажарным Слонімшчыны. На іх пажарныя дружыны Дзятлава, Казлоўшчыны і Слоніма, якія заўсёды вылучаліся сваімі прафесійнымі здольнасцямі. Тыя ж дзятлаўчане ў 1953 годзе сталі пераможцамі абласных спаборніцтваў. На некалькіх здымках можна ўбачыць пажарных з гарадскога пасёлка Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна.

З’яўленне альбома прымеркавана да 165-годдзя пажарнай службы Рэспублікі Беларусь.

●***Васіль Герасімчык***

*Здымкі выкарыстаныя з дазволу ўкладальніцы альбома*




***Асабовы склад пажарнай часткі г. Слоніма ў 1948 годзе.***



***Баявы разлік Казлоўшчынскай пажарнай часткі, 1954 год.***



***Кіраўнік Казлоўшчынскай пажарнай часткі К. Жывулька праводзіць занятκі з асабовым складам, 1954 год.***




***Асабовы склад прафесійнай пажарнай часткі Дзятлава ў 1968 годзе.***

# Спроба рэгулярнай забудовы Слоніма пасля пажару 1835 года

У 1848, 1875 і 1881 гадах цэнтр Слоніма быў фактычна знішчаны агнём.[1] Маштаб пажараў тады вызначаўся нерэгулярнай драўлянай шчыльнай забудовай. Аднак, насамрэч, тых жудасных стратаў, які зведаў горад у другой палове XIX стагоддзя, можна было пазбегнуць.

Шанец для гэтага быў прадастаўлены ў 1835 годзе, калі ў 14 гадзін 22 траўня ў Слоніме адбыўся пажар, які знішчыў 102 хаты з рознымі гаспадарчымі пабудовамі.[2]

Аб сур'ёзнасці стратаў для Слоніма сведчыць той факт, што для вызначэння прычын пажару 3 чэрвеня быў выдадзены загад расійскага імператара Мікалая І. У справе павінен быў разабрацца гродзенскі губернскі землямер Прэйс.

У Слонім быў накіраваны губернскі казённых спраў страпчы Дабржылеўскі, які разам з членам суда і гарадскім бурмістрам заняліся вызначэннем прычын пажару. Адначасова пачалася праца па складанні плана прасторы зямлі, забудаванай цяпер ужо згарэлымі хатамі. Для гэтага ў наш горад быў камандзіраваны павятовы землямер Кадамнаў. Ён і павінен быў вызначыць месцы забудовы новых хат. Камісія таксама павінна была назваць памер дапамогі для пацярпелых ад агню слонімцаў.



*У XIX стагоддзі пажары ў беларускіх гарадах адбываліся рэгулярна.*

Камісія пачала працу 4 ліпеня 1835-га. У яе ўвайшлі гараднічы, член гарадскога магістрата, прадстаўнік яўрэйскага кагалу і Дабржылеўскі. Яны заняліся прызначэннем месца для забудовы новых хат замест пагарэлых. У адпаведнасці з гэтым, землямерам складаўся агульны план і апісанне, ад якога забаранялася адступаць пры ўладкаванні новых вуліц. Гэты дакумент павінен быў зацвердзіць сам кіраўнік Гродзенскай губерні. На рэгулярнай забудове Слоніма ў дадзеным выпадку рабіўся асаблівы ўхіл. У дадатак новыя хаты павінны былі адпавядаць пэўнаму знешняму выгляду, які распрацоўваўся землямерам "з паказаннем колькасці зямлі пад пабудову кожным гаспадаром, які яе займаў, і прадстаўляць на зацверджанне ў Губернскую будаўнічую камісію".[3]

Аднак гэтыя пункты не выконваліся, паколькі гаспадарам будынкаў для атрымання дакументаў на новыя хаты неабходна было пацвердзіць сваё права на ўласнасць. Таму слонімскія пагарэльцы пачыналі будавацца "падпольна", з парушэннем раней вызначаных правілаў, на што гарадскія ўлады проста закрывалі вочы.

5 снежня землямер Кадамнаў паведамляў гродзенскаму губернскаму землямеру Прэйсу, што больш паловы гаспадароў згарэлых хат да яго проста не звярнулася па дакументы, якія яны, відавочна, усё роўна не мелі магчымасці атрымаць з-за адсутнасці пацверджання на валоданне зямельнымі ўчасткамі. Ён адзначаў, што неаднаразова звяртаўся ў Слонімскую "гарадавую" паліцыю, каб яна знайшла 58 пагарэльцаў і патлумачыла ім сітуацыю. Аднак паліцэйскія аднесліся абыякава, фактычна праігнаравалі зварот павятовага землямера. Кадамнаў піша, што "слонімскія жыхары для атрымання [малюнкаў] фасадаў не прыходзілі". Таму чыноўнік, пабачыўшы "сабатаж", вырашыў паехаць у Навагрудак, паколькі меў нейкія ранейшыя загады па гэтым горадзе.[4]

У выніку, магчымасць рэгулярнай забудовы цэнтральных вуліц Слоніма, якая магла быць рэалізавана ў 1835 годзе, гарадскія ўлады не выкарысталі.

●***Васіль Герасімчык***

*[1] Герасімчык В. Вялікія слонімскія пажары // Слонімскі край, 2016, № 5. С. 14-15.*

*[2] НГАБ у г. Гродне, ф. 11, воп. 3, спр. 194. Дело о составлении проекта застройки сгоревшей части города Слонима. Начато: 3 июня 1835 года. Окончено: 5 декабря 1835 года. На 27 аркушах. Арк. 1.*

*[3] Там жа, арк. 3.*

*[4] Там жа, арк. 27.*

# Дзедаўшчына ў Слоніме, радыёдыверсія і лагер ваеннапалонных каля Жыровічаў




*Працяг, пачатак на ст. 1*

Два гады таму ў Маскве выйшла кніга ўспамінаў ветэрана Другой сусветнай вайны Нуры Халілава.* Для нас яна цікавая і важная, паколькі аўтар у 1940-1941 гадах служыў на Слонімшчыне.

Халілава прызвалі ў Чырвоную Армію ў канцы снежня 1939 года. З Сімферопаля на таварным цягніку навабранцаў завезлі ў Днепрапятроўск, а адтуль — у Віцебск. Хлопцы думалі, што іх адправяць на савецка-фінскі фронт, але выйшла інакш. Нуры Халілаў трапіў у Слонім. Ён успамінае, што пасялілі іх у “старых царскіх казармах”. Паколькі цягнік з амуніцыяй дзесьці “заблукаў”, боты і шынялі выдалі толькі праз дзён 10-12.

“Амаль усіх навічкоў залічылі ў школу малодшых камандзіраў, — піша Н. Халілаў. — Камандаваў намі сяржант Сухараў. Ён пачаў з мяне здзекавацца, мучыў мяне фізічна, бароўся са мной, чапляўся. Ён быў мацнейшы, гэта было падобна да дзедаўшчыны”.

Але працягвалася гэта толькі некалькі дзён. Халілаву пашанцавала — пасля сумоўя з палкавым камісарам яго прызначылі палітруком школы малодшых камандзіраў. Да канца зімы 1940-га адбыўся яе выпуск. У сакавіку Нуры Халілаў з іншымі трапіў у Баранавічы ў 128-ы стралковы полк, быў палітруком роты. Ён прыгадвае шмат цікавых дэталяў, напрыклад, тое, як чырвонаармейцы карысталіся закаткамі са складоў былога польскага войска. У горадзе байцы і камандзіры Чырвонай Арміі баяліся хадзіць паасобку — забівалі мясцовыя жыхары, якія ненавідзелі савецкую ўладу. А аднойчы, успамінае ветэран, у адным доме атруцілі цэлае аддзяленне. Дарэчы, Халілаў падзяляе мясцовых і “савецкіх людзей”.

Летам 1940 года частку Нуры Халілава пешым маршам накіравалі да мяжы з Літвой. Галодныя і змучаныя чырвонаармейцы паўдзельнічалі ў саветызацыі гэтай краіны. 128-ы полк пазней вярнуўся ў Беларусь, але ўжо дыслакаваўся ў Жыровічах. Ва ўспамінах хапае недакладнасцяў. Напрыклад, у Жыровічах у 1940 годзе не магло быць “12 тысяч грамадзян беларускай і польскай нацыянальнасці”. Насельніцтва складала ў разоў дзесяць менш. “У горадзе было пяць храмаў: праваслаўны, каталіцкі і іншых веравызнанняў”, — піша аўтар і зноў памыляецца. Ён прыгадвае свята Жыровіцкай іконы Маці Божай, на якое збіраліся тысячы вернікаў.

“Людзі былі адусюль, многія ішлі басанож, — чытаем ва ўспамінах Нуры Халілава. — Нашы ўлады паспрабавалі перашкодзіць ім: устанавілі гукаўзмацняльнік і сталі трансляваць савецкія песні, маршы. Прыйшоў галоўны святар з пратэстам і пагрозамі. Наш палкоўнік аддаў загад аб спыненні радыёдыверсіі”.

Ветэран сцвярджае, што яго частка дыслакавалася ў адной з цэркваў, у будынку якой паставілі двухпавярховыя нары, арганізавалі кухню і сталоўку. Рота была кулямётнай, мела коней. Часам Халілаў, камандзір роты і старшына на конях ездзілі па наваколлі. З гэтым звязаны важны ўспамін: “Неяк мы выехалі ў поле і заўважылі, што за калючым дротам сядзяць нейкія людзі. Пад’ехалі бліжэй і ў вартавога спыталіся, хто яны такія. Нам



патлумачылі, што гэта польскія афіцэры былой іх арміі. Вакол лагера па кутах стаялі вышкі, а на іх — нашы савецкія вартавыя. Нам стала шкада палякаў…”.

Нуры Халілаў запомніў, што мясцовыя жыхары, беларусы і палякі, чакалі пачатак вайны і адкрыта пра гэта казалі чырвонаармейцам, прагназавалі, што немцы іх за дзве гадзіны выб’юць адсюль на ўсход. “Яны яшчэ нікога не баяліся”, — піша ён. Ветэран сведчыць пра нянавісць людзей да савецкай улады. На сценах дамоў у Жыровічах часта з’яўляліся антысавецкія лістоўкі.

Халілаў падрабязна апісвае вайсковае жыццё ў беларускім мястэчку. У студзені 1941 года яго прызначылі намеснікам начальніка клуба. Там часта паказвалі кіно, выступалі прафесійныя артысты, у тым ліку са Слоніма, з Баранавіцкага тэатра. Неўзабаве Нуры Халілава прызначылі начальнікам палкавой бібліятэкі.

Аднойчы да іх у частку прыйшлі трое мясцовых — былых падпольшчыкаў з КПЗБ. Яны папрасілі даць ім лектара, бо збіраліся арганізаваць калгас, “але што гэта такое, не ведаюць”. Камуністы гарантавалі бяспеку гэтаму чалавеку, бо “час быў небяспечны, людзі былі настроеныя варожа, чакалі вайну, прыходу немцаў”, “свабодна слухалі нямецкае радыё”. На сходзе з жыхарамі нейкай вёскі (ці вёсак) Халілаву не ўдалося іх пераканаць уступіць у калгас — людзі, паслухаўшы яго, казалі, што не пойдуць туды. У іншай вёсцы было тое самае. “Мне падалося, што гэтыя сяляне пра нашае жыццё, пра нашыя калгасы ведаюць больш, чым я”, — успамінае ветэран.

Пасля таго, як Халілава выбралі сакратаром камсамольскай арганізацыі палка, сакратар Слонімскага гаркама камсамола запрасіў яго выступіць перад школьнікамі — вучнямі 9-10 класаў. Верагодна, адбываўся сход у Народным доме. Нуры Халілаў расказваў пра камсамол, яго праграму, дзейнасць. “Тут таксама былі антысавецкія выступленні, выкрыкі, — піша ў сваіх успамінах ветэран. — Пасля сходу на выхадзе з залы каля ўваходных дзвярэй пабачыў антысавецкі плакат”.



*Нуры Халілаў*

Як бачым, вайсковец зафіксаваў у 1940-1941 гадах у Слоніме і Слонімскім раёне антысавецкія настроі ў мясцовых жыхароў. Пры гэтым яны не баяліся іх выказваць. Адзначым, што Халілаў не згадвае пра арышты антысаветчыкаў.

Ветэран апісвае тагачасны Слонім, “невялікі, але вельмі чысты і прыгожы горад”. Яшчэ ў пачатку 1940 года “амаль каля кожнага дома [у цэнтры горада] былі гандлёвыя кропкі — ларкі-акенцы”. У крамах, на рынку было шмат разнастайных прадуктаў, адзення. Вайскоўцы, у тым ліку і нававбранцы, якіх прывозілі з Каўказа, мелі грошы і ўсё гэта скуплялі. Неўзабаве крамы апусцелі. “Продаж стаў здзяйсняцца тайна, — піша Халілаў. — …Усё стала, як у нас у Саюзе”.

Чырвонаармеец (крымскі татарын) даведаўся, што ў Слоніме ёсць Татарская вуліца. У кінатэатры ён пазнаёміўся з маладой татаркай. Яна расказала, што татары жывуць у горадзе з часоў князя Вітаўта і што іх шмат, але многія забыліся сваю родную мову.

У лютым 1941-га Нуры Халілаў быў камандзіраваны ў Быценскі раён. У раёне Ямічна быў арганізаваны “паходна-палявы ваенкамат” — у мужчын забіралі польскія ваенныя білеты, а выдавалі савецкія. Падчас гэтай камандзіроўкі ў адной з вёсак Халілаў весела бавіў час — удзельнічаў у вечарынках, з выпіўкай. “Спалі хто з кім на пераменку”, — піша аўтар успамінаў. Працягвалася гэта некалькі тыдняў, пакуль не прыйшоў загад вярнуцца ў полк.

У сярэдзіне чэрвеня 1941 года 128-ы стралковы полк з Жыровічаў перакінулі на поўнач ад Брэста. Там Нуры Халілаў трапіў у акружэнне.

●***Сяргей Ёрш***

**Халилов Н. Долгая дорога домой. Воспоминания крымского татарина об участии в Великой Отечественной войне. — Москва, 2016.*

СТАТЫСТЫКА

# Слонім напярэдадні паўстання 1863 года



Давайце павандруем па Слоніме напярэдадні паўстання 1863 года. І ў гэтым нам дапамогуць розныя старыя расійскія выданні і даведнікі. Найперш, “Гродненские губерские ведомости”, “Обозрение Гродненской губернии” за асобныя гады XIX стагоддзя, “Материалы для географии и статистики России” (Санкт-Пецярбург, 1863) і іншыя крыніцы.

**Вуліцы, плошчы і будынкі Слоніма**

Напарэдадні паўстання 1863 года ў Слоніме былі дзве плошчы, якія не мелі назваў. На Рынкавай вуліцы (цяпер — Першамайская) знаходзіліся каталіцкі манастыр бернардзінак, гасцінны рад, дзве аптэкі, дзве карчмы, два вінных склада і чатыры заезныя дамы.

На Маставой вуліцы (цяпер — Янкі Купалы) былі два заезныя дамы, магчыма, дзве карчмы. Знаходзілася там і лепшая крама з “аршынным таварам”.

На Панасоўскай вуліцы (цяпер — Пушкіна) узвышаўся Праабражэнскі праваслаўны сабор. На Ражанскай (Ружанскай) вуліцы свае вялікія прыватныя дамы мелі яўрэі Ліпштэйн, Задарноўскі, Баўман (меў дом каменны), Міляр, Рыпа і Берман. Дарэчы, адзін з Рыпаў напачатку XX стагоддзя трымаў у Слоніме сваю фотамайстэрню і пакінуў нам у спадчыну шмат паштовак з выявамі нашага горада. На Ружанскай вуліцы знаходзіліся яшчэ галантарэйная крама, дваранскае вучылішча, тры аптовыя крамы аршыннага тавару і тры заезныя дамы.

Жыровіцкая вуліца (цяпер — Чырвонаармейская) на той час магла пахваліцца толькі старым будынкам кляштара бенедыктынак з касцёлам. Ён быў заняты “інваліднай камандай”. На вуліцы таксама знаходзіліся два заезныя дамы.

На Бернардзінскай вуліцы (цяпер — Васі Крайняга) знайшлі сваё месца рымска-каталіцкі кляштар бернардзінцаў і касцёл, вінны склад і лазня.

Замкавую вуліцу (цяпер — Камсамольскую) упрыгожвалі дом Мікульскага, паштовая станцыя і тры заезныя дамы.

Ваенна-часовыя і гарадскія бальніцы месціліся на Студэнцкай вуліцы. Тут таксама былі інтэрнат для школьнікаў і яўрэйскае вучылішча першага разраду.

На Татарскай вуліцы дзейнічала мячэць, там жыло шмат татараў.

На Замосці (на правабярэжжы Шчары) ў Слоніме былі прыходская рымска-каталіцкая царква, артылерыйскія казармы і стайні, багадзельня, суконная фабрыка, вадзяны казённы млын, турэмны замак, ваеннае збудаванне (хлеў) і правіянцкі драўляны лабаз.

У Слоніме на той час мелася 811 дамоў, 176 дробных крамаў, 13 заезных дамоў, бойня, фабрыка, дзве карчмы, 68 піцейных дамоў, дзве аптэкі, грамадскі гасцінны двор, артылерыйскія казармы і стайні.

**Насельніцтва Слоніма**

Насельніцтва Слоніма на той час налічвала 9500 чалавек. Дваран было 26, ваенных каля 660 чалавек, вучняў і чыноўнікаў каля 270, мяшчан — каля 6000. У Слоніме тады жылі 944 праваслаўных, 1400 католікаў, 11 пратэстантаў, 306 асобаў магаметанскай веры і больш за 6000 яўрэяў.

Вось невялікая статыстыка па нараджэнню і смерці па двух гадах.

У 1857 годзе ў Слоніме нарадзілася 62 яўрэі, 73 яўрэйкі, памерла яўреек — 127, яўрэеў — 48, заключылі шлюб 65 яўрэйскіх пар.

У 1858 годзе нарадзілася 176 яўрэеў, 25 яўрэек, памерла яўрэеў — 59, яўрэек — 42, заключылі шлюб 39 яўрэйскіх пар.

У 1857 годзе ў Слоніме нарадзілася праваслаўных хлопчыкаў — 71, дзяўчынак — 63, памерла 66 мужчын, 48 жанчын. Заключылі шлюб 54 пары.

У 1858 годзе нарадзілася праваслаўных хлопчыкаў



*План Слоніма з першай паловы XIX стагоддзя.*

— 78, дзяўчынак — 72, памерла 58 мужчын, 37 жанчын. Заключылі шлюб 57 пар.

У 1857 годзе нарадзілася католікаў: хлопчыкаў — 79, дзяўчынак — 61, памерла мужчын — 38, жанчын — 60, заключылі шлюб 68 пар.

У 1858 годзе нарадзілася католікаў: хлопчыкаў — 64, дзяўчынак — 55, памерла мужчын — 22, жанчын — 50, заключылі шлюб 70 пар.

У 1857 годзе ў Слоніме нарадзілася хлопчыкаў-мусульман — 12, дзяўчынак — 7, памерла мужчын — 9, жанчын — 3, заключылі шлюб толькі 2 мусульманскія пары.

У 1858 годзе ў Слоніме нарадзілася хлопчыкаў-мусульман — 9, дзяўчынак — 8, памерла мужчын — 3, жанчын — 5, заключыла шлюб толькі адна мусульманская пара.

**Фабрыкі, заводы, млыны**

Напрыканцы 1850-х — у пачатку 1860-х гадоў у Слоніме дзейнічалі суконная фабрыка, 2 скураныя фабрыкі, 2 цагляныя заводы і 2 ганчарныя.

На рацэ Шчара працаваў вадзяны казённы млын, прыватны млын. Дзейнічалі 4 піваваранныя заводы, якія ў год давалі каля 200 бочак піва.

**Пажарныя інструменты**

У Слоніме для тушэння пажараў былі падрыхтаваныя 2 заліўныя трубы з рукавамі, 8 бочак з жалезнымі абручамі, 2 распускі, якія вазілі лесвіцы і багры. Налічвалася 3 лесвіцы і 12 багроў.

**●*Сяргей Чыгрын***

# Абразы з надпісамі ў храмах Слонімшчыны

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

У слонімскім касцёле святога Андрэя (1770-1775) найбольшую цікавасць ўяўлялі драўляныя фасадныя скульптуры, абразы XVIII стагоддзя — "Ісус, які прапаведуе ў сінагозе" і "Бегства ў Егіпет". Усе яны былі ў дрэнным стане.

У касцёле Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі кляштара бернардынак (1664-1670) адразу 21 прадмет прыцягнуў увагу навукоўцаў. Сярод іх больш дзясятка абразоў XVIII стагоддзя, арган, зроблены ў Варшаве ў 1909 годзе, фісгармонія з ЗША пачатку XX ст., а таксама скульптуры, якія ўпрыгожвалі алтар, і мэбля XIX стагоддзя. На жаль, значнай стратай для храма стала зніклая алтарная карціна святой Барбары і разабраная кафляная печ XVII ст.

Другі па багаццю збор у Слоніме мела Свята-Троіцкая царква (да 1864 года — касцёл бернардынцаў). Сярод 15 прадметаў, якія зацікавілі навукоўцаў, былі два абразы з надпісамі на адваротным баку. Так, абраз "Святыя Канстанцін, Алена, Міхаіл, Аляксандр" меў на ніжнім полі надпіс *"Въ память формирования слонимской жандармской команды на деньги, пожертвованные начальником и унтер офицерами оной команды в 1865 г."*. Другі абраз "Спачын Багародзіцы" унізе меў тэкст *"Сія икона заложена за пленными воинами Деревенского прихода въ воспоминаніе благополучнаго возвращения с поля брани 25 апреля 1906 года"*. Гаворка, відавочна, ішла пра палонных салдат царскай арміі часоў руска-японскай вайны.



***Божая Маці Шкаплерная. XVIII ст. Касцёл Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Слоніме. Фота 1982 года.***

Шэраг прадметаў сакральнага мастацтва захоўваліся ў Слонімскім музеі. Сярод іх — евангелісты Марк, Іаан і Матфей (XVIII ст.), апосталы Іаан і Прохар, карціна Васіля Верашчагіна "Асада Троіца-Сергіевай лаўры".

Багатая калекцыя абразоў і іншых сакральных прадметаў захоўвалася ў Жыровічах у драўлянай Георгіеўскай, зімняй Нікольскай, Крыжаўзвіжанскай і Яўленскай цэрквах, а таксама Успенскім саборы. Сярод іх металічная рыза "Святы Георгій Перамоганосец" з выгравіраваным надпісам "Onufrij Tormotowicz 1848".

У царкве Раства Багародзіцы ў Міжэвічах (1864) захоўваліся чатыры абразы XVIII стагоддзя, сярод якіх двухбаковы вынасны абраз Божай Маці з немаўлём і Пакроў Божай Маці, а ў каталіцкай капліцы ў Новадзявяткавічах — распяцце XVIII ст.

У азярніцкай царкве свяціцеля Мікалая (1867) захоўвалася тры абразы з надпісамі ад ахвярадаўцаў. Так, "Раства Багародзіцы" ўнізе

мела надпіс *“Пожер. Братчиком Климентие Кошикевичем. 1888 года января 15 дня”*. Абраз “Цуд Жыровіцкай Багародзіцы” меў цяжка чытальны надпіс *“Въ память чудесного спасения… … царя и царской семьи и от пожара сей церкви… октября 1888 г.”*. На абразе “Спачын Божай Маці” меўся надпіс *“Пожер. Псаломщиком Емелиановъ Касперскимъ 1888 г. Апреля 15 дня”*.

Цікавыя матэрыялы былі прадстаўленыя ў царкве Казанскай Божай Маці вёскі Шылавічы (1867) і драўлянай Міхайлаўскай царкве вёскі Пeравалока (1864). У апошняй з іх на абразе св. князя Аляксандра Неўскага па ніжняй кромцы ішоў надпіс *“Въ память спасения Государя Императора Александра II-го отъ… опасности 4 апреля 1866 года”*.

●**Васіль Герасімчык**

*Пры падрыхтоўцы выкарыстаны матэрыял з кнігі Любові Міхайлаўны Зорынай “Сакральное искусство Гродненщины” (Гродно: ООО «ЮрСаПринт», 2018. 230 с.).*



***Спачын Багародзіцы. Свята-Троіцкая царква ў Слоніме. Фота 1982 г.***



***Святыя Канстанцін, Алена, Міхаіл, Аляксандр. Свята-Троіцкая царква ў Слоніме. Фота 1982 г.***



***Рыза “Святы Георгій Перамоганосец”. Георгіеўская царква ў Жыровічах. Фота 1982 г.***



***Царква Раства Багародзіцы ў Міжэвічах Са збораў Слонімскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.***



*Арханёл Міхаіл з Міхайлаўскай царквы ў вёсцы Перавалока. Фота 1982 г.*



*Міхайлаўская царква ў вёсцы Перавалока.*



*Унутранае аздабленне царквы ў в. Перавалока. Са збораў Слонімскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.*

# Слонім 1943 года ад Юзафа Шыманчыка



Гэтыя здымкі мне ў 1990-х гадах прыслаў Юзаф Шыманчык (1909 — 2003) — беларускі і польскі фатограф, які быў родам з Косава. Некаторыя я ўжо публікаваў, а іншыя сёння друкуюцца ўпершыню. На іх адлюстраваны Слонім падчас нямецкай акупацыі ў 1943 годзе. Юзаф Шыманчык тады жыў у Слоніме, меў тут сваю фотамайстэрню. У ліпені 1944 года яна згарэла, фатограф выратаваў толькі асобныя здымкі і негатывы.

Пасля вайны Юзаф Шыманчык паехаў жыць у Польшчу, дзе яшчэ сорак гадоў працаваў фатографам у гарадку Кутна. З выхадам на пенсію, у 1985 годзе, ён пераехаў у Лодзь, дзе і пражыў апошнія гады жыцця.*

А цяпер пра здымкі. У 1943-м, нягледзячы на тое, што фронт быў далёка, горад быў у палоне вайны. На здымках бачна нейкая трывога і неспакой. Здымкі зроблены ў цэнтры Слоніма: завулак, які вядзе да сінагогі, сяляне на рынку, храмы горада, людзі, крамы, дрэвы… Вось так выглядаў Слонім 75 гадоў таму.

●***Сяргей Чыгрын***



**"СК" ужо згадваў пра лёс Юзафа (Язэпа) Шыманчыка. Гл.: Чыгрын С. Юзаф Шыманчык фатаграфаваў Слонім // Слонімскі край, 2017, № 8(18). Жнівень. С. 15-16; Гурскі Г.* →



→ *Пра трагічнае здарэнне, у якім загінула жонка фатографа Шыманчыка // Слонімскі край, 2017, № 11(21). Лістапад. С. 10.*

# З фотаальбома слонімца Пятра Бурсевіча



*Будаўнічая брыгада са Слоніма, 1954 г.*

Старэйшы слонімскі мастак Пятро Бурсевіч нарадзіўся ў 1936 годзе ў Чамярах. Пра мастацтва і родную вёску Пятро Фёдаравіч можа расказваць бясконца. Бо з маленства любіць вёску, цікавіцца лёсам сваіх землякоў. А мастацтва — гэта яго захапленне.

Пятро Бурсевіч любіць маляваць краявіды Чамяроў, Слоніма, Рышчыцаў, партрэты землякоў — фарбамі, акварэллю і алоўкам. Падабаецца Пятру Фёдаравічу яшчэ майстраваць з дрэва, ляпіць з гліны. Напрыклад, ваза "Пеўнік" пабывала на шматлікіх выставах. Дарэчы, Пятро Бурсевіч аформіў два паэтычныя зборнікі слонімскага паэта Анатоля Іверса (1912 — 1999) — "Прыдарожныя сосны" і "Травень".

А яшчэ Пятро Бурсевіч піша вершы, добра гуляе ў шахматы. Яго паэтычныя творы друкаваліся ў розных выданнях, а сатырычныя радкі з вялікай радасцю публікуе часопіс "Вожык".

Пятро Бурсевіч з жонкай жыве ў Слоніме ў мікрараёне Рышчыцы. У яго доме ёсць прыватная бібліятэка і фотаархіў. Нядаўна старэйшы слонімец дазволіў мне пакарыстацца сваім фотаархівам і выбраць здымкі для "Слонімскага краю". Некалькі пасляваенных здымкаў з сямейнага фотаальбома Пятра Бурсевіча сёння публікуем.

●*Сяргей Чыгрын*



*Ілья Міско з Чамяроў, жнівень 1959 г.*




*Васіль Бурсевіч у Чамярах чытае "Калгасную праўду", 1958 г.*



*Васіль Бурсевіч, верасень 1958 г.*



*Пётр Бурсевіч, 1956 г.*



*Тадэвуш Бякета, 1943 г.*

# Жыхары Слонімшчыны, забітыя партызанамі ў траўні 1942-га — чэрвені 1943 года

*Заканчэнне, пачатак у № 7, 2018 г.*

**Раманюк Ядзя** (дзіця). Забітая 19 лютага 1943 года ў 20 гадзін ў Харашэвічах. Нарадзілася 23 кастрычніка 194(?) года ў Нагуевічах. Бацькі — Канстанцін Раманюк, нарадзіўся ў 1908 годзе ў Харашэвічах, Алена (у дзявоцтве — Бондар), нарадзілася ў 1908 годзе ў Харашэвічах. Праваслаўныя.

**Герман Васіль.** Забіты 24 лютага 1943 года ў 4 гадзіны ў Дзераўной. Нарадзіўся ў 1886 годзе ў Ісаевічах. Бацькі — Адам Герман, 1858 года нараджэння, з Ісаевічаў, Марыя (у дзявоцтве — Шапавал), 1877 года нараджэння, з Саковічаў. Жонка — Соф'я (у дзявоцтве — Сілявонік), 1891 года нараджэння, з Вайневічаў (Дзятлаўскі раён). Праваслаўныя.

**Дубак Анастасія** (у дзявоцтве — Радкевіч). Забітая 27 лютага 1943 года ў 2 гадзіны ў Казловічах (цяпер — Зэльвенскі раён) у сваёй хаце. Нарадзілася ў Масілавічах. Бацькі — Ілля Радкевіч з Сурынкі, жыў у Масілавічах, Юзэфа (у дзявоцтве — Сумарусіш) з Масілавічаў. Муж — Данііл Дубак, 1893 года нараджэння, у Казловічах, жыў у Слоніме. Праваслаўныя.

**Дубак Валянціна** (вучаніца). Забітая 27 лютага 1943 года ў 2 гадзіны ў Казловічах. Нарадзілася ў 1933 годзе. Бацькі — Данііл Дубак, 1893 года нараджэння, з Казловічаў, жыў у Слоніме; Анастасія (у дзявоцтве — Радкевіч), 1899 года нараджэння, з Масілавічаў. Праваслаўныя.

**Дубак Міхаіл** (дзіця). Забіты 27 лютага 1943 года ў 2 гадзіны ў Казловічах у сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў Казловічах. Бацькі — Данііл Дубак і Анастасія (у дзявоцтве — Радкевіч). Праваслаўныя.


Nr. 623 Slonim, den / dnia 30 červienia 1943 h.
Der ziemlarob Aleksandr Turuk, biełaruskaj nacyjanalnaści, hrecko-katalickaha vieravyznańnia
wohnhaft / pražyvajučy(aja) u Jakimavičach, vołaść Sytavičy
ist am / dnia 30 červienia 1943 h. um / a 1 Uhr / hadzinie 25 Minuten / minut
in / u Jakimavičach u svaim pamieškańni zabity verstorben / pamior(ła)
Der Verstorbene war geboren am / Pamioršy(ja) ŭradziŭsia(łasia) 1885
in / u Jakimavičach
Vater / Baćka Ivan Turuk, narodžany u Jakimavičach, pražyvaŭ u Jakimavičach pamior u 1939 hodzie
Mutter / Matka Zofja z domu Predko, narodžana u Jakimavičach, pražyvała u Jakimavičach, pamierła u 1923 h.

**Грыгарэвіч Міхаіл.** Збіты да смерці 11 сакавіка 1943 года ў 4 гадзіны ў Высацку. Нарадзіўся ў 1920 годзе ў Буцілах каля Жалудка. Бацькі: Міхаіл Грыгарэвіч, 1889 года ў Буцілах, Надзея (у дзявоцтве Гаель), нарадзілася ў 1892 годзе ў Малышах. Праваслаўныя.

**Струпавец Мікалай.** Забіты 13 сакавіка 1943 года ў 22 гадзіны ў Якімавічах у сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1911 годзе ў Якімавічах. Бацькі — Мікалай Струпавец з Якімавічаў, Стэфанія Струпавец з вёскі Яжона. Жонка — Вера (у дзявоцтве — Турук), нарадзілася ў 1919 годзе ў Раслаўлі. Праваслаўныя.

**Струпавец Стэфанія.** Забітая 13 сакавіка 1943 года ў 22 гадзіны ў Якімавічах у сваёй хаце. Нарадзілася ў 1858 годзе ў вёсцы Яжона. Бацька — Ігнат Струпавец. Муж — Мікалай Струпавец, 1855 года нараджэння, з Якімавічаў. Праваслаўныя.

**Струпавец Вера** (у дзявоцтве — Турук). Забітая 13 сакавіка 1943 года ў 22 гадзіны ў Якімавічах. Нарадзілася ў 1919 годзе ў Раслаўлі (Расія) Бацькі — Аляксандр Турук, 1885 года ў Якімавічах, грэка-каталік; Вікторыя (у дзявоцтве — Кажэнеўская), 1891 года нараджэння, з Лепеля, рыма-каталічка. Муж — Мікалай Струпавец, 1911 года нараджэння, з Якімавічаў. Праваслаўная.

**Струпавец Тацццяна** (дзіця). Забітая 13 сакавіка 1943 года ў 22 гадзіны ў Якімавічах. Нарадзілася ў 1940 годзе ў Якімавічах. Бацькі — Мікалай і Вера Струпаўцы.

**Струпавец Валянціна** (дзіця). Забітая 13 сакавіка 1943 года ў 22 гадзіны ў Якімавічах. Нарадзілася ў 1942 годзе ў Якімавічах. Бацькі — Мікалай і Вера Струпаўцы.

**Мажэйка Мікалай.** Забіты 17 сакавіка 1943 года ў 16 гадзін ў Шундрах. Жыў у Альбярціне. Нарадзіўся 20 траўня 1920 года ў Расіі. Бацькі — Пётр Мажэйка, нарадзіўся ў 1893 годзе ў Гавенавічах (цяпер — вёска Падгорная Баранавіцкага раёна), Надзея Мажэйка, 1898 года нараджэння, з Якімавічаў, жылі ў Альбярціне. Праваслаўныя.

**Радзевіч Мікалай.** Забіты 22 сакавіка 1943 года ў 2 гадзіны ў Дзераўной. Нарадзіўся ў 1892 годзе ў Дзераўной. Бацькі — Тэадор Радзевіч з Дзераўной, Лізавета (у дзявоцтве — Дуброўская) з Ваўчуноў. Жонка — Стэфанія (у дзявоцтве — Нестаровіч), 1894 года нараджэння, з Дзераўной. Праваслаўныя.

**Казак Марцін.** Забіты 20

красавіка 1943 года ў 2 гадзіны ў Харашэвічах. Нарадзіўся ў 1892 годзе ў Харашэвічах. Бацькі — Антон і Ганна Казакі з Харашэвічаў. Жонка — Аляксандра (у дзявоцтве — Канапешка), 1900 года нараджэння, з Загрыцькава. Праваслаўныя.

**Качарга Уладзімір.** Забіты 20 красавіка 1943 года ў 2 гадзіны ва ўласнай хаце ў Харашэвічах. Нарадзіўся ў 1909 годзе ў Харашэвічах. Бацькі — Антон Качарга з Харашэвічаў, Аляксандра (у дзявоцтве — Койпаш) з Блошна. Жонка — Ганна (у дзявоцтве — Клімутко), 1906 года нараджэння, з Харашэвічаў. Праваслаўныя.

**Качарга Ганна** (у дзявоцтве — Клімутко). Забітая 20 красавіка 1943 года ў 2 гадзіны ва ўласнай хаце ў Харашэвічах. Нарадзілася ў 1906 годзе ў Харашэвічах. Бацькі — Іван Клімутко з Харашэвічаў і Вольга (у дзявоцтве — Трус) з Ісаевічаў. Муж — Уладзімір Качарга, 1909 года нараджэння, з Харашэвічаў. Праваслаўныя.

**Качарга Марыя** (у дзявоцтве — Кісель). Забітая 20 красавіка 1943 года ў Харашэвічах. Нарадзілася ў 1911 годзе ў Нагуевічах. Бацькі — Данііл Кісель, 1890 года нараджэння, Варвара Кісель з Нагуевічаў. Муж — Васіль Качарга, 1911 года нараджэння, з Харашэвічаў. Праваслаўныя.

**Раманюк Марыя** (у дзявоцтве — Герман). Забітая 20 красавіка 1943 года ў 3 гадзіны ў Харашэвічах. Нарадзілася ў 1880 годзе ў Ісаевічах. Бацькі — Гаўрыіл Герман з Ісаевічаў, маці невядомая. Муж — Аляксандр Раманюк, 1868 года нараджэння з Харашэвічаў. Праваслаўныя.

**Казак Яўгенія** (у дзявоцтве — Булыга). Забітая 20 красавіка 1943 года ў 23 гадзіны ў Харашэвічах у сваёй хаце. Нарадзілася 5 траўня 1905 года ў Харашэвічах. Бацькі — Антон Булыга з Харашэвічаў, Юльяна (у дзявоцтве — Раманюк), нарадзілася ў 1869 годзе ў Харашэвічах. Муж — Васіль Казак, нарадзіўся ў 1904 годзе ў Харашэвічах. Праваслаўныя.

**Казак Фёдар.** Забіты 20 красавіка 1943 года ў 23 гадзіны ў Харашэвічах у сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1900 годзе. Бацькі — Антон Казак, 1866 года нараджэння, з Харашэвічаў, Ганна (у дзявоцтве — Жылінская), 1871 года нараджэння, з Харашэвічаў. Жонка — Яўгенія (у дзявоцтве — Трус), 1907 года нараджэння, з Дзераўной, жыла ў Харашэвічах. Праваслаўныя.

**Казак Яўгенія** (у дзявоцтве — Трус). Забітая 20 красавіка 1943 года ў Харашэвічах у сваёй хаце. Нарадзілася ў 1907 годзе. Бацькі — Эмільян Трус, 1874 года нараджэння, з Дзераўной, Агата Трус, 1888 года нараджэння, з Малышэвічаў. Муж — Фёдар Казак, з Харашэвічаў. Праваслаўныя.

**Пелічка Марыя** (у дзявоцтве — Ганчарук). Забітая 20 красавіка 1943 года ў 1 гадзіну ў Харашэвічах у сваёй хаце. Нарадзілася ў 1907 годзе ў Харашэвічах. Бацькі — Сцяпан Ганчарук, 1864 года нараджэння, з Харашэвічаў, Алена (у дзявоцтве — Раманюк), 1867 года нараджэння, з Загрыцькава. Муж — Васіль Пятліцкі, 1912 года нараджэння, з Харашэвічаў. Праваслаўныя.

**Трус Іосіф.** Забіты 29 красавіка 1943 года ў 24 гадзіны ў Дзераўной у сваёй хаце. Нарадзіўся ў 1886 годзе ў Дзераўной. Бацькі: Фларыян Трус, 1856 года з Дзераўной, Алена Трус, 1856 года з Дзераўной. Жонка Анастасія (у дзявоцтве Леваяроўская), 1886 года з Дзераўной. Праваслаўныя.

**Прусевіч Аляксандр.** Забіты 28 траўня 1943 года ў 19 гадзін у Гавенавічах. Нарадзіўся ў Гавенавічах у 1906 годзе. Бацькі — Аляксей Прусевіч, народжаны ў Гавенавічах, памёр у 1940 годзе, Марыя (у дзявоцтве — Ларыш), народжаная ў Гавенавічах, жыла ў Гавенавічах, памерла у 1940 годзе. Жонка — Алена (у дзявоцтве — Саўчук), нарадзілася ў Гавенавічах у 1914 годзе. Праваслаўныя.

**Фідрык Піліп.** Забіты 15 чэрвеня 1943 года ў 6 гадзін у Залессі ва ўласнай хаце. Нарадзіўся ў 1872 годзе ў Залессі каля Жыровічаў. Бацькі на той час ужо памерлі — Улас і Дар'я Фідрык з Завершша. Жонка Анастасія (у дзявоцтве — Міхальчык), нарадзілася ў Залессі, дзе памерла ў 1903 годзе. Праваслаўныя.

**Турук Аляксандр.** Забіты 30 чэрвеня 1943 года ў 1 гадзіну ў Якімавічах ва ўласнай хаце. Нарадзіўся ў 1885 годзе ў Якімавічах. Бацькі — Іван Турук з Якімавічаў, памёр у 1939 годзе, Зоф'я (у дзявоцтве — Прэдка), народжаная ў Якімавічах, дзе памерла ў 1923 годзе. Жонка — Вікторыя (у дзявоцтве — Кажэнеўская), нарадзілася ў Віцебску. Грэка-каталікі.

**Турук Вікторыя** (у дзявоцтве — Кажэнеўская). Забітая 30 чэрвеня 1943 года ў 1 гадзіну 25 хвілін у Якімавічах. Нарадзілася ў 1892 годзе ў Віцебску. Бацькі — Антон Кажэнеўскі, народжаны ў Віцебску, Пелагея (у дзявоцтве — Апольская) з Віцебску. Муж — Аляксандр Турук. Грэка-каталікі.

**Турук Ірына.** Забітая 30 чэрвеня 1943 года ў 1 гадзіну 25 хвілін ў Якімавічах. Нарадзілася ў 1925 годзе ў Якімавічах. Бацькі — Аляксандр і Вікторыя Турук. Грэка-каталікі.

**Турук Генадзь.** Забіты 30 чэрвеня 1943 года ў 1 гадзіну 25 хвілін у Якімавічах. Нарадзіўся ў 1929 годзе. Бацькі — Аляксандр і Вікторыя Турук.

*Публікацыя*
●***Васіля Герасімчыка***

